

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

# Газета Слонімская

№52 (185). 21 — 27 снежня 2000г. Масава-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 110 руб.


## З КАЛЯДАМІ!



*Сёлетняе каляднае свята мае вельмі вялікае значэнне. Таму што гэты год — юбілейны, 2000 гадоў з дня нараджэння Ісуса Хрыста. Хрысціяне гэты год адзначаюць найперш умацаваннем веры, аднаўленнем хрысціянскай традыцыі і практыкаваннем хрысціянскага жыцця.*

*Хтосьці скажа, што сапраўдных хрысціян мала, большасць людзей жывуць "так, як хочуць", як бы Бога не было. Але Ян Павел II Папа Рымскі сказаў так: "Мы, хрысціяне, — гэта соль зямлі". Што гэта значыць? Мы ведаем, што соль захоўвае харчаванне ад гнілі. Так і мы, хрысціяне, праз свае малітвы, добрыя ўчынкі, добрыя паводзіны ва ўсім свеце павінны падтрымліваць маральны лад хрысціянскага жыцця.*

*Мы павінны так жыць, каб заўсёды сваім жыццём даваць людзям добры прыклад. Кожны павінен ведаць, што калі ён хрысціянін, то павінен жыць па запаветах Хрыста.*

*У сувязі з надыходзячым святам Калядаў і Новага года ўсім вам жадаю, каб дзіцятка Ісус благаславіла вас усіх, вашу сям'ю, ваш дом, вашу гаспадарку, каб вы заўсёды жылі пад апекай Божай.*

*Ксёндз-дэкан* ***Вітольд ЖЭЛЬВЕТРА,*** *настаяцель касцёла св. Андрэя*



Фота Віталя Гіля

**Да Новага года засталіся лічаныя дні. Да гэтага свята звычайна людзі рыхтуюцца загадзя, слонімцы — не выключэнне. Яны спяшаюцца на рынак, у крамы, каб набыць для сваіх родных і блізкіх сувеніры і падарункі. Больш за ўсё іх чакаюць дзеці. Асаблівай радасцю для дзяцей будзе ў доме навагодняя ёлка. А каб яе ўпрыгожыць, бацькам трэба купіць гірлянду (ад 55 руб. да 500 руб.), электрычныя ліхтарыкі (ад 3572 руб. да 5725 руб.), мішуру (ад 187 руб. да 1685 руб.), дожджык (ад 43 руб. да 689 руб.), вярхушку для ёлкі (каля 1533 руб.), дзеда Мароза (каля 1000 руб.), цацкі (ад 4000 да 9000 руб.). Штучныя ёлкі каштуюць ад 2921 руб. да 11298 руб. Жывыя — да 1 метра — 785 руб., да 3м — 950 руб., да 5м — 1240 руб. А яшчэ бацькам трэба паклапаціцца пра падарункі пад гэтыя ёлкі...**

**Вольга ШЫНКЕВІЧ**

# КТО ОН – СЛЕДУЮЩИЙ ПРЕЗИДЕНТ?

**На заседании Координационной рады демократических сил (КРДС), прошедшем 15 декабря в Минске, определены три наиболее перспективных претендента от оппозиции на предстоящие президентские выборы: бывший премьер-министр Беларуси Михаил Чигирь; председатель Федерации профсоюзов белорусской Владимир Гончарик; бывший председатель Гродненского облисполкома, депутат Верховного Совета Беларуси 13-го созыва Семен Домаш.**

Уже началась работа по выработке и согласованию процедуры выдвижения единого кандидата для участия в президентских выборах. От остальных двух претендентов предполагается добиться согласия участвовать в команде единого кандидата.

Также на заседании КРДС был рассмотрен вопрос о совершенствовании деятельности по подготовке избирательной кампании – создание избирательных штабов по регионам, групп наблюдателей и так далее.

По словам заместителя председателя БНФ Виктора Ивашкевича, представители Партии труда подняли вопрос о возобновлении участия представителя Белорусской социал-демократической партии (Народная Грамада) в рамках КРДС. Как сообщил Виктор Ивашкевич, присутствующие согласились с этим, и попросили одного из руководителей Партии труда Леонида Лемешонка провести консультации с руководством БСДП (НГ) и найти приемлемый компромисс для возвращения партии к работе в КРДС.

**(Продолжение на 2 стр.)**



*Владимир Гончарик*



*Семён Домаш*



*Михаил Чигирь*

## СВЯТОЧНЫЯ НАБАЖЭНСТВЫ
### Ў СЛОНІМСКІХ КАСЦЁЛАХ

КАСЦЁЛ СВ. АНДРЭЯ
24.XII.2000 — вячэрняя служба ў 22.00.
25.XII.2000 — Дзень першы святочны — набажэнствы ў 11.00, 19.00.

КАСЦЁЛ МАЦІ БОЖАЙ
24.XII.2000 — вячэрняя служба ў 24.00.
25.XII.2000 — набажэнствы ў 9.00, 17.00.



ІНТЭРВ'Ю

# КОЦІМСЯ ў бездань

**Непадалёку ад Дзятлава ёсць былы маёнтак Жыбартаўшчына. Там размешчана наркалагічнае аддзяленне цэнтральнай раённай бальніцы. Лячыцца ад алкагалізму сюды прыязджаюць не толькі жыхары Дзятлаўскага, але і Навагрудскага, Шчучынскага і іншых раёнаў Гродзенскай вобласці. Загадчыкам аддзялення працуе Віктар Белавус. Гэта не толькі таленавіты і ўмелы доктар, але і чулы, спагадлівы чалавек. Ён глыбока ведае праблему алкагалізму, прайшоў спецыялізацыю ў Варшаве, неаднаразова быў на міжнародных сімпозіумах.**

Некалькі гадоў таму назад Віктар Мікалаевіч стварыў пры наркалагічным аддзяленні групу ананімных алкаголікаў. Пры яго непасрэдным удзеле створаны падобныя групы ў Баранавічах, Гродне, Брэсце і многіх іншых гарадах. Сёння доктар Белавус адказвае на пытанні нашага карэспандэнта.

***— У Вашым кабінеце бачу незгараемую шафу. У ёй — уліковыя карткі алкаголікаў, гісторыі хваробы. За кожнай — горкі лёс чалавека, слёзы жонак, дзяцей. Там прозвішчы ўсіх палоннікаў Бахуса, якія маюць патрэбу ў лячэнні?***

— Што вы! Тут усяго якіх-небудзь трыццаць працэнтаў ад агульнай колькасці алкаголікаў. Справа ў тым, што людзі з такой хваробай не спяшаюцца да ўрача, а некаторыя, можа, не наведалі б яго ніколі, каб гэтага не дамагаліся родныя, блізкія. А іншы раз і міліцыя ўмяшаецца ў справу, бо ўжо нельга далей цярпець іх ганебныя паводзіны.

**(Працяг на 2 стр.)**

НАВІНЫ

## Железная дорога вновь подорожала

**Меньше двух недель продержались установленные с начала декабря в Беларуси новые базовые тарифы на проезд в поездах межгосударственного сообщения. На сей раз, стоимость билетов увеличилась в среднем на 5,8 процента.**

Теперь за поездку, к примеру, из Минска в Москву в плацкартном вагоне скорого поезда нужно заплатить 10.707 рублей (ранее – 10.118), Санкт-Петербург – 11.660 (11.019), Смоленск – 6.787 (6.413), Киев – 10.549 (9.969), Калининград – 16.903 (15.972), Симферополь – 20.289 (19.171), Харьков – 12.818 (12.113).

Гораздо дороже обойдется поездка в купейном вагоне. Проезд в купе пассажирского поезда из Минска в Москву будет стоить 15.259 рублей (14.418), Санкт-Петербург – 17.698 (16.724), Киев – 14.943 (14.119), Ригу – 39.596 (37.418), Вильнюс – 10.008 (9.456), Одессу – 25.265 (23.875), Адлер – 36.707 (34.685).

Как сообщили БелаПАН в пресс-службе Белорусской железной дороги, повышение тарифов связано со значительным укреплением швейцарского франка по отношению к американскому доллару (стоимость билетов на поезда дальнего следования в странах СНГ рассчитывается исходя из курса швейцарского франка).

**Дмитрий ВЛАСОВ**

## ВЕРНІКІ АБНАВІЛІ КРЫЖ

**У гэтыя перадсвяточныя дні хацелася б адзначыць, як рыхтаваліся вернікі Слонімшчыны да Калядаў. У многіх месцах Сloніма і раёна былі ўсталяваны новыя крыжы. А на Камсамольскай вуліцы мясцовыя жыхары абнавілі каталіцкі крыж.**

"ГС" ужо пісала пра гісторыю гэтага крыжа, які з пачатку стагоддзя стаяў у цэнтры былой Замкавай вуліцы. Дзесьці ў 1960-ым годзе, калі брукавалі вуліцу, крыж з вуліцы прыбралі, але яго выратавала сям'я Савіцкіх. Крыж быў устаноўлены ў іх агародзе каля хаты і, нягледзячы на ціск з боку савецкіх уладаў, прастаяў аж да сённяшняга часу.





*Крыж на Камсамольскай вуліцы*

Восенню сёлета мясцовыя жыхары, католікі і праваслаўныя, вырашылі абнавіць гэты крыж. Самі падрыхтавалі матэрыял, з якога самі зрабілі прыгожы крыж. Трэба згадаць прозвішчы гэтых людзей: Баляслаў Бакшанскі, Генрых і Вольга Савіцкія, Ніна Лукашэйка. А асвяціў крыж айцец Вітольд Жэльветра.

Не хацелася згадваць напярэдадні Калядаў пра сумнае, але... Напачатку лістапада каля Парэцкай царквы быў усталяваны крыж у гонар паўстанца Міхала Валовіча. Праз месяц асвечаны крыж, па рашэнню ўладаў, быў знесены, як "незаконна ўстаноўлены". Трэба нагадаць, што на шыльдачцы, прымацаванай да крыжа, былі напісаны наступныя словы: "Ва ўшанаванне памяці беларускага паўстанца Міхала Валовіча (1806 – 1833) і ягоных паплечнікаў, якія ахвяравалі сваё жыццё ў барацьбе за вызваленне Беларусі ад расійскага царызму". Да вайны ў Парэччы быў помнік Валовічу, але ён таксама быў знесены ў першыя гады савецкай улады...

**Сяргей ЁРШ**

ІНТЭРВ'Ю

## КОЦІМСЯ ў бездань



*Загадчык наркалагічнага аддзялення Дзятлаўскай раённай бальніцы Віктар Белавус*

**(Пачатак на 1 стр.)**

***— Віктар Мікалаевіч, што Вы лічыце галоўным у сваёй рабоце?***

— Самае галоўнае і самае цяжкае – давесці да свядомасці чалавека, які захапляецца спіртным, думку, што ён алкаголік і ўсе яго беды менавіта ад гэтага. Няпроста разбудзіць самакрытычнасць, прымусіць паглядзець на сябе з боку. Іншы раз глядзіш на чалавека са спітым тварам, з дрыготкімі ад пахмелля рукамі – і боль напаўняе сэрца. А паспрабуй сказаць такому, што ён алкаголік. Што яму трэба тэрмінова лячыцца? І гаварыць пра гэта не хоча: " П'ю, як усе. Захачу і кіну. Падумаеш, праблема...".

А на самой справе – гэта праблема з праблем. Пакуль чалавек не ўсвядоміць усю нізкасць свайго становішча, ён не стане на шлях выпраўлення. Прыгадваю, з адным жыхаром Дзятлава я чатыры гады мучыўся, але ў рэшце-рэшт ён сказаў: "Так, я алкаголік. Буду рабіць усё, што скажаце, абы толькі пазбавіцца гэтых мук, гэтай ганьбы".

Пасля адпаведнага лячэння ён не п'е спіртнога ўжо некалькі гадоў. Адчувае сябе выдатна, наладзіліся адносіны ў сям'і.

***— Ведаю, што Вы вярнулі да нармальнага жыцця не толькі гэтага чалавека, але і многіх другіх. І ўсё ж, на вялікі жаль, колькасць алкаголікаў у нашым грамадстве не змяншаецца. Адзін возмецца за розум, а два іншых гэты розум прапіваюць. У чым жа прычына, што народ так бяздумна співаецца?***

— У нашай дзяржаве няма антыалкагольнай палітыкі. Калі раней дзяржава рэгулявала продаж спіртных напіткаў, то цяпер гэта справа пушчана на самацёк. Вы ж паглядзіце, спіртное прадаецца на кожным кроку. Ім запоўнены дзяржаўныя магазіны і прыватныя крамы, няма абмежавання ні ў часе, ні ў колькасці. Пі калі хочаш і колькі хочаш. Карацей кажучы, працэс алкалізацыі выйшаў з-пад кантролю. Гэта трагедыя для нашага няшчаснага народа. Я параўноўваю сітуацыю ў нашай краіне з той, якая некалі склалася ў Амерыцы. Што зрабілі белыя, каб заваяваць кантынент? Спрабавалі браць сілай – не дапамагло. Тады далі ўволю алкагольных напіткаў і наркотыкаў, і ўся праблема вырашылася сама па сабе. Тое ж самае адбываецца цяпер і з нашай няшчаснай Беларуссю. Яна стала транзітным калідорам для перазову наркотыкаў з Захаду на Усход. І не дзіва, што немалая колькасць гэтай атруты асядае на Беларусі. А тут яшчэ алкагалізм. Бязвольным народам кіраваць проста. Ён за гарэлку і наркотыкі зробіць усё, што загадаюць.

Страшна падумаць: гінуць разумныя, таленавітыя людзі, топіцца ў гарэлцы цвет нацыі. Гэта не проста словы. Я маю магчымасць назіраць за гэтым кожны дзень.

І паглядзіце яшчэ, які парадокс: алкаголікаў становіцца больш, а лячыць іх няма чым і няма дзе.

***— А колькі алкаголікаў стаіць на ўліку ў нашым раёне?***

— Каля тысячы. А яшчэ ж ёсць так званая група рызыкі. Гэта, калі можна так сказаць, пачынаючыя алкаголікі: бытавыя п'яніцы, скандалісты. Яшчэ не ўзятыя на ўлік, але не сёння-заўтра папоўняць армію алкаголікаў. І паўтораць іх страшны лёс.

***— Алкагалізм перадаецца ў спадчыну?***

— Ну, а як жа ён можа не перадавацца? Калі п'юць бацькі, і дзеці бачаць, што яны кожны дзень жывуць у палоне алкагольнага дурману, то рана ці позна і малыя пацягнуцца да чаркі. А некаторыя таты і мамы сваімі рукамі падносяць дзеткам чарачку. Я мог бы назваць дзесяткі сем'яў у нашым раёне, дзе пілі дзяды, потым бацькі, цяпер п'юць унукі. Ёсць, так бы мовіць, моцныя алкагольныя дынастыі. І гэта не толькі ў Дзятлаве. Такі малюнак назіраецца ва ўсіх раёнах, у любым кутку Беларусі.

***— Віктар Мікалаевіч, дык што ж рабіць?***

— Кажучы бюракратычнай мовай, дзяржава павінна тварам павярнуцца да праблемы. Зрабіць гэта трэба на ўзроўні заканадаўчай і выканаўчай улады. Па-першае, у недзяржаўных магазінах і шапіках забараніць гандаль спіртнымі напіткамі. Гэта – заканадаўцы. А выканаўцы павінны пракантраляваць, каб ні пад якім выглядам гэта атрута ў маляўнічых бутэльках не трапляла на прылаўкі прыватных лавак.

Па-другое, зрабіць надзвычай жорсткай барацьбу з самагонаварэннем, бо гэта таксама вялікая крыніца зла. Падумайце: п'юць мужчыны, жанчыны, дзеці. У мяне ўжо лячыліся пацыенты, якім усяго па трынаццаць гадоў.

***— Якую дапамогу Вы можаце прапанаваць тым, хто трапіў у алкагольнае балота і не мае сіл выбрацца з яго?***

— Лячэнне ў аддзяленні. Ананімнае лячэнне. Кадзіраванне непасрэдна ў нас. Проста прыватныя ананімныя гутаркі. Сустрэчы ў групе ананімных алкаголікаў. Яны адбываюцца кожны чацвер у 16 гадзін. Прыходзяць тыя, хто лечыцца ў аддзяленні, а таксама тыя, хто кінуў піць год, два, пяць, дзесяць гадоў таму назад. Тут людзі заўсёды атрымліваюць падтрымку. Ніхто не застанецца без увагі, сам насам з праблемай.

**Гутарыла Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## КТО ОН – СЛЕДУЮЩИЙ ПРЕЗИДЕНТ?

**(Начало на 1 стр.)**

Как напомнил Виктор Ивашкевич, решения об исключении партии из КРДС не принималось. Было решено приостановить присутствие ее представителя на заседаниях КРДС – до определения позиции БСДП (НГ) по участию в повторных парламентских выборах 18 марта 2001 года. Как сказал Виктор Ивашкевич, "мы мечтаем о том, что Белорусская социал-демократическая партия (Народная Грамада) преодолеет свой внутренний кризис и присоединится к конструктивной работе в рамках КРДС". Он также отметил конструктивный дух заседания и то, что большинство субъектов КРДС достигли согласия по единой кандидатуре. "Но никто не собирается ломать через колено и выдвигать ультиматумы меньшинству. Консультации будут продолжаться до тех пор, пока не определимся с единым кандидатом, параллельно будет идти работа по подготовке к участию в выборах", – подчеркнул Ивашкевич.

"Реальным соперником Лукашенко на президентских выборах 2001 года может быть только "кремлевский" кандидат", – такое мнение известный политолог, вице-президент Белорусского союза предпринимателей Александр Потупа высказал в интервью БелаПАН. По его мнению, относительные шансы действующего президента, промосковского кандидата и кандидата от оппозиции можно оценить как 5:4:1.

Обязательное участие "ставленника Москвы" в президентских выборах в Беларуси Потупа связывает с тем, что между Москвой и Минском существует "неразрешимое противоречие", несмотря на "желание Лукашенко интегрироваться с Россией". Этим противоречием, по мнению аналитика, является стремление московской администрации контролировать развитие событий в Беларуси, с одной стороны, и неприятие белорусским лидером каких-либо форм внешнего контроля, – с другой. Москва, считает Потупа, могла бы обеспечить Александру Лукашенко лишь статус главы Беларуси как 8-го федерального округа России, на что белорусский лидер не согласится. По предположению политолога, "кремлевский" кандидат должен появиться на белорусско-российском политическом небосклоне уже в январе.

Что же касается кандидата от оппозиции, то Александр Потупа считает, что его шансы на победу в президентской избирательной кампании в несколько раз ниже, чем у названных двух кандидатов. Более того, он полагает, что при попытке выдвижения единого оппозиционного кандидата оппозиция расколется, и "ее осколки сцепятся друг с другом в смертельной схватке".

По прогнозу Потупы, борьба на президентских выборах в Беларуси в 2001 году будет настолько жесткой, что это резко изменит ситуацию в информационном пространстве Беларуси. Почти наверняка, считает известный политолог, будут пущены в ход – в качестве компромата – факты или домыслы об исчезновениях известных людей, о психической неполноценности и финансовых махинациях кандидатов.

"Хотите ли вы, чтобы А.Лукашенко был президентом нашей страны еще один срок?". С таким вопросом к жителям Беларуси обратились сотрудники Независимого института социально-экономических и политических исследований в ходе общенационального социологического опроса в ноябре этого года.

Были опрошены около 1.500 респондентов 16 лет и старше, представляющих все социально-демографические слои населения. 42 процента заявили, что не хотят избрания Александра Лукашенко президентом на второй срок. Вместе с тем 36 процентов опрошенных хотели бы видеть его во главе государства. И 22 процента опрошенных затруднились ответить.

На вопрос "Удовлетворены ли вы тем, как А.Лукашенко управлял страной в течение шести лет?" 43 процента респондентов ответили: "Отчасти удовлетворены, отчасти нет". 36 процентов опрошенных "скорее не удовлетворены" и 20 процентов "скорее удовлетворены" тем, как Александр Лукашенко управлял Беларусью в течение последних шести лет.

**Геннадий БАРБАРИЧ**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны: рэдакцыі ........2-14-39
..........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы ..........2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

Падпісана да друку 20 снежня 2000г. Час падпісання 7:00.
Надрукавана ў Гродзенскім абласным унітарным прадпрыемстве "Слонімская друкарня", г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
63646 (ільготная)
Наклад 9700 экз.
Заказ № 3865

НАВІНЫ

## Под сенью муз

**Так назывался вечер поэзии, который состоялся в клубе "Лира" при городской библиотеке № 4 г. Слонима.**

Уже второй год наши поэты-любители собираются за самоваром, чтобы поделиться своим творчеством.

На этот раз свои стихи читали слонимчане Нелли Киселёва и Леонид Грушко.

Нина ДУБРОВСКАЯ

## Пераднавагоднія сюрпрызы

**Іх прыносіць незвычайна цёплае надвор'е.**

Ні для каго не сакрэт, што шматлікія кусты і дрэвы пачалі распускацца, але даўно не было такога, каб напярэдадні Новага года ў лесе можна было збіраць грыбы. І не толькі зялёнкі ці падзялёнкі, але і іншыя, і ў значнай колькасці. А ў ваколіцах вёскі Галубы ў лесе зацвілі суніцы.

Язэп ПАЛУБЯТКА

## Адсвяткавалі 2000-годдзе

**У мастоўскім РДК прайшлі ўрачыстасці з нагоды 2000-годдзя Нараджэння Хрыстова. Сюды, як і планавалася, былі запрошаны кіраўнікі арганізацый раёна, прадстаўнікі духавенства і вернікі.**

На свята прыйшлі прадстаўнікі праваслаўнай і каталіцкай канфесій. Адстутнічалі вернікі пратэстанцкай і адвенцісцкай цэркваў, якіх няма на Мастоўшчыне. Распачаў свята з невялікай прамовы старшыня райвыканкама Аляксандр Кісялёў. Потым гучалі выступленні святароў і вернікаў. Мерапрыемства доўжылася дзве гадзіны. Напрыканцы яго музычныя калектывы Мастоўшчыны далі канцэрт духавой музыкі. У фае РДК была арганізавана выстава экспанатаў з музея рэлігіі з Гродна.

Антон МАКЕЙ

## Таямніца высвятляецца

**Некалькі тыдняў таму назад у Мастах была ўзарана тэрыторыя калгаснага рынку.**

Жыхары губляліся ў здагадках: хто і дзеля чаго гэта зрабіў? Вось што на гэты конт патлумачылі ў адміністрацыі калгаснага рынку.

Высвятляецца, што тэрыторыю ўзаралі па ўказанні Мастоўскага райвыканкама. Але ў кіраўніцтва калгаснага рынку адносна гэтага няма ніякага дакумента. Вусна ім патлумачылі, што на рынку хочуць пасеяць вясной траву. Толькі шмат хто з гараджан схільны да высновы, што гэтая тэрыторыя адыдзе пад агароды начальнікаў. Бо тут праз некалькі метраў узведзены асабнякі старшыні райвыканкама, яго першага намесніка, начальніка міліцыі і генеральнага дырэктара ААТ "Мастоўдрэў".

Язэп ПАЛУБЯТКА

## Справаздачы ветэранаў

**Мастоўскае грамадскае аб'яднанне ветэранаў праводзіць справаздачныя сходы.**

Яны адбываюцца ў першасных арганізацыях. Увогуле, гэтая арганізацыя на Мастоўшчыне зараз налічвае толькі 356 чалавек, хоць сюды могуць уступіць не толькі ўдзельнікі Вялікай Айчыннай, але і тыя, хто ў часы існавання СССР прымаў удзел у ваенных канфліктах па-за яго межамі. Між тым зараз на Мастоўшчыне пражывае 13,5 тысячы пенсіянераў, гэта адна трэць насельніцтва раёна.

Антон МАКЕЙ

# ДЭГРАДАЦЫЯ ГРАМАДСТВА
## пачынаецца са здзеку над мовай

З яго замілаванасцю, каштоўнасцю, з яго гаючасцю звязаны нашы духоўныя і маральныя якасці, нашы лепшыя чалавечыя набыткі.

Родная мова – гэта акенца ў мінулае, сувязь з будучым, гэта душа народа, жывая і трапяткая. А душа бессмяротная, значыць, бессмяротная наша мова, якая з'яўляецца сведкай высокароднай і ўзвышанай душы беларуса.

Стан нашай мовы – гэта стан нашай культуры, стан нашай дзяржаўнасці...

І калі прыглядзецца, якія зрухі адбываюцца ў развіцці культуры, духоўным патэнцыяле асобы, дык не скажаш, што мы рухаемся наперад. Ажыццяўляецца рэформа ў развіцці школы – як вышэйшай, так і агульнаадукацыйнай. Вядомыя захады прымае Міністэрства асветы.

Аднак прагрэсуе дэградацыя грамадства, дэградацыя асобы. Тыя добрыя рысы памяркоўнага, сардэчнага, разважлівага, чулага, працавітага беларуса паступова выраджаюцца, усё часцей і часцей мы сустракаем людзей, якія толькі знешне, па вонкавых прыкметах, па вопратцы лічацца людзьмі. Не прыпыняецца разбой, крадзеж, п'янства, сіфіліс, СНІД, і ўсе гэтыя "каштоўнасці" з кожным днём узрастаюць. Атрымоўваецца чамусьці так, што ўсе як бы згаварыліся працаваць не на карысць чалавека, а наадварот, адвучваць яго ад усталяваных прынцыпаў, традыцый, запаведзяў Біблії.

Дыктар нашага роднага тэлебачання замест "будаўніцтва двух касцёлаў" паўтарае некалькі разоў "будаўніцтва дзвюх касцёлаў", замест "пытанне" стараецца вымавіць на "магілёўскім" дыялекце – "патанне".

Можа, хто-небудзь будзе разважаць, што гэта не мае ніякага значэння. Асноўнае – палітыка, эканоміка.

Не, людцы, гэта не толькі прыкра, але і прыклад для слухача, гледача, падлетка, дзіцяці. Калісьці будаўнік камунізму М. С. Хрушчоў не мог па сваёй неадукаванасці вымавіць правільна слова камунізм, а вымаўляў камунізьм, дык колькі і з адукацыяй нават паддаліся на гэтае бязглуздае вымаўленне. І цяпер пакаленне тых гадоў, а нават і больш маладзейшае працягваюць вымаўляць так, як вымаўляў Першы сакратар ЦК КПСС. А як размаўляў ужо з адукацыяй землямернага тэхнікума Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. І. Брэжнеў.

> **З матчыных вуснаў пачутае роднае слова сагравае нас сваім цяплом, дае нам жыццёвыя крылы, дае права звацца чалавекам на пачатку жыццёвага шляху.**

А памятаеце, калі ўжо адукаваны М. С. Гарбачоў хацеў надаць нейкае больш эмацыянальнае і змястоўнае значэнне слову мышленне і вымаўляў мышленне. Паўдзяржавы запар, адразу забыўшыся пра тлумачальны слоўнік, сваю адукаванасць, культуру, сталі ламаць сваё правільнае вымаўленне, хаця б патрапіць так, як вымаўляе М. С. Гарбачоў. А прыслухайцеся, якое вымаўленне дзяржаўных вяльможаў цяпер па радыё і тэлебачанні.

А колькі смецця высыпае на слухачоў наша тэлебачанне ў тых перадачах, якія прысвячаюцца дзецям!

З якога гэта часу сталі выхаваўчымі такія словы, як балбес, чокнуты, крэцін, балдзёжны, клёва, класна... З рэкламы гучыць: "Класны фруктовы сок, проста абалдзенны".

А. Пугачова ў сваіх прамовах выкарыстоўвае такі выраз як "класны мужык". Два словы і два жаргонізмы. А нашы чыноўнікі! Яны ўжо вядуць свае размовы толькі па-руску, ды як? Свякла́, до́говар – стараюцца нават тлумачыць, што свякла – гэта па-беларуску. Дык не, даражэнькія, па-беларуску не свякла, а буракі. Задумайцеся, як гэты чалавек атрымаў адукацыю і ці вучыўся наогул. Перад урадам краіны трэба ставіць патрабаванне, каб кожны – ад прэзідэнта і да самага маленькага начальніка – перад тым як выступаць, звяртаўся да кансультанта, які б папраўляў, вучыў. Можна ж мецъ у сучаснай установе хоць адну адукаваную асобу. І хай гэтая асоба зацвярджаецца загадам і нясе адказнасць. А тым, хто сыпле смецце на галовы другіх, забараніць выступаць.

Такая іх мова, я думаю, ад ляноты, ад таго, што яму ўсё дазволена, ад таго, што ўжо даўно не чытае літаратуры. Не вораг жа ён свайму народу, і не робіць жа ён усё гэта з намерам?

Ёсць прымаўка: "Слова не верабей, выляціць – не зловіш". Прыслухайцеся да размовы дзяцей у садку, у школе, паглядзіце, якім стаў іх слоўнік. (Нармальна, класна, абалдзенна, блін...) А ці не заўважалі вы за людзьмі старэйшага ўзросту, якім цяжка аб чым-небудзь расказаць? Пачынаецца шматразовае паўтарэнне слоў "гэта самы, гэта самая...", затым – "блін, бляха-муха", а калі нічога не атрымліваецца, гучыць пяціпавярховы мат.

І не трэба думаць, што гэта толькі знешне прыкра. Ой, як глыбока западаюць гэтыя словы сваім зместам у светапогляд чалавека, некаторыя становяцца сэнсавай дамінантай цэлага пакалення. А колькі яны прынеслі пакут?

Іван КАРПОВІЧ,
выдатнік асветы Беларусі

# ШАРЫК З ГЕРМАНІІ

**У рэдакцыю нашай газеты завітаў жыхар вёскі Падлессе Слонімскага раёна Пётр Блізнюк. Ён прынёс жоўты надуўны шарык і невялікую, прымацаваную да яго, паштоўку з тэкстам. Гэтую цікавую рэч мужчына знайшоў непадалёку ад сваёй вёскі.**

Пасля перакладу тэксту з нямецкай мовы, стала вядома, што шарык на Слонімшчыну прыляцеў з нямецкага горада Карлштадт. У гэтым горадзе меліся пабудаваць хімічны завод. Але мясцовыя жыхары выступілі супраць. Тысячы людзей выйшлі на вуліцы з паддобнымі шарыкамі. На іх напісана: "Чыстае паветра для Карлштадта". А на паштоўцы з аднаго боку быў тэкст: "Я не хацеў бы, каб у Карлштадце быў хімічны завод". А з другога боку: "Я – фармальдэгід і хутка завітаю разам з фенолам, аміякам, пылам ад усіх штучных валокнаў з новага хімічнага прадпрыемства Карлштадта, калі вы нічога не распачнеце супраць гэтага".

Вось так немцы змагаюцца за чысціню экалогіі, за сваё здароўе. А мы?..

Сяргей ЧЫГРЫН,
Віталь ГІЛЬ (фота)




ПОЧТА



# Пригодится ли слонимчанам пинский опыт?

***Хотя я и житель Пинска, но когда бываю в Слониме, всегда интересуюсь тем, что происходит в вашем городе. Многое узнаю со страниц "Газеты Слонімскай". Иногда сравниваю, как те же проблемы решаются в Пинске и Слониме.***

Недавно в "ГС" была заметка о крытых автобусных остановках в городе. Вот я и хочу обратить внимание слонимчан на то, как подобные проблемы решаются в Пинске. Площадка под остановку отдается предпринимателю, который желает иметь торговую точку на этой остановке (площадке). Предприниматель ставит свой ларек, к которому под одной крышей примыкает сама остановка. Дугообразная крыша изготовлена из органического стекла, стены ларька сделаны из металлоконструкции и пластика. На остановке стоят скамейки, есть освещение. Все красиво и современно смотрится, соответствует евростандартам.

Вокруг ларька-остановки уложена фигурная тротуарная плитка. За чистотой и порядком, естественно, смотрит хозяин ларька. И тут все довольны: и предприниматель, т. к. возле торговой точки всегда толпятся потенциальные покупатели-пассажиры, и пассажиры, т. к. им есть где спрятаться от дождя и еще что-то можно купить.

Может быть в решении подобных вопросов слонимчанам пригодится пинский опыт?

Н. БОРИСИК, г.Пинск

ЗДАРЭННІ

## Пакалечылі хлопца

**На ўскрайку Дзятлава ў цемры на аднаго з траіх хлопцаў, якія вярталіся з дыскатэкі, наехала машына.**

З цяжкімі траўмамі ён быў дастаўлены ў рэанімацыю. Вадзіцель з месца здарэння ўцёк.

## Гарым, браточкі!

**У лістападзе з-за несправаднасці печаў і дымаходаў у Дзятлаўскім раёне здарыліся тры пажары.**

У вёсцы Колкі п'яны мужчына задыхнуўся ў дыме. Ён курыў у ложку і заснуў.

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

## Брат падпаліў брата

**У вёсцы Вялікая Кракотка Слонімскага раёна пасварыліся два родныя браты.**

Адзін з іх падпаліў братаў дом. Згарэлі дах, мэбля і склеп. Праводзіцца праверка.

## Выяўлены труп

**У вёсцы Ганькі Слонімскага раёна на ўласным надворку выяўлены труп мужчыны.**

Падчас высвятлення абставінаў смерці, міліцыя ўстанавіла, што дзве сям'і мірна адпачывалі за сталом. Пасля выпітага мужчыны спачатку пасправаліся, а затым сталі біцца. Да іх далучыліся і жанчыны.

У выніку 42-гадовы мужчына атрымаў смяротны ўдар нажом. Адзін з удзельнікаў бойкі затрыманы. Узбуджана крымінальная справа.

## Зніклі шыфер і куры

**З даху калгаснай фермы, што ў вёсцы Урач Слонімскага раёна, знік шыфер.**

А ў аднаго з жыхароў Слоніма ўкралі пяць курэй. Міліцыя шукае зладзеяў.

Сяргей ЧЫГРЫН

## Аматары аўтамагнітол дзейнічаюць

**Невядомыя ноччу прама ў двары дома выбілі шкло ў дзвярах дзвюх легкавушак.**

З аднаго аўтамабіля была скрадзена аўтамагнітола. У другім аўтамабілі шкло было выбіта дарэмна, аўтамагнітолы там не аказалася.

Антон МАКЕЙ

## Падробка не прайшла

**На мінулым тыдні ў Слоніме была выяўлена несапраўдная купюра коштам 5 мільёнаў беларускіх рублёў.**

Падробку заўважылі прадаўцы магазіна "Лета". Фальшыўкай справаваў разлічыцца жыхар горада Баранавічы. Па яго словах, яму яе выдалі ў якасці камандзіровачных у той арганізацыі, дзе ён працуе.

Па гэтаму факту ўзбуджана крымінальная справа, праводзіцца праверка.

## Крадзёж на Сацыялістычным завулку

**Днямі ў Слонімскую міліцыю звярнулася жыхарка з завулка Сацыялістычны.**

Яна паведаміла, што ў той час, калі яе не было ў хаце, невядомы ўкраў 30 тысяч рублёў і тканіну. Ідзе следства.

Валодзя ЯНЧУК

# БЕЛОРУССКИЕ БЕЗРАБОТНЫЕ — МОЛОДЕЖЬ И ЖЕНЩИНЫ

**Из общего количества официально зарегистрированных в Беларуси безработных 55 процентов составляют молодые люди в возрасте от 16 до 29 лет.**

Такие данные сообщил на пресс-конференции председатель Комитета по занятости населения при Министерстве труда — заместитель министра Дмитрий Ванеев.

Рост числа безработных среди молодежи — одна из основных проблем, которые существуют сегодня на рынке труда республики. Проблема занятости молодых людей в возрасте от 16 до 29 лет, особенно не имеющих профессии и работы, продолжает усугубляться. Так, за девять месяцев число выпускников базовых и средних школ в составе зарегистрированных безработных увеличилось на 2,3 тысячи человек, или на 21,3 процента. Каждый четвертый из молодых безработных — выпускник школы.

Помимо этого, продолжает снижаться образовательный уровень безработных. Более 60 процентов из них имеют только среднее общее образование, 14 процентов не имеют полного среднего образования, что в условиях конкуренции на рынке труда и повышения требований нанимателей к качеству рабочей силы существенно снижает возможности трудоустройства.

Среди зарегистрированных безработных по-прежнему доминируют женщины — свыше 60 процентов от общего количества. Вследствие преобладания спроса на мужскую рабочую силу показатель трудоустройства женщин составляет только 35 процентов, в то время как мужчин — 54 процента. В результате женщины имеют более продолжительный период безработицы. Среди безработных, состоящих на учете более одного года, 80 процентов — женщины.

В Комитете по занятости населения констатируют, что на рынке труда по-прежнему сохраняется значительный дисбаланс между спросом и предложением рабочей силы по профессиональному, квалификационному составу, признаку пола и так далее. Заявленные в государственную службу занятости вакансии на 82 процента предназначены для рабочих, в то время как среди безработных рабочие профессии и специальности имеют только 67 процентов. При этом 80 процентов предлагаемых свободных рабочих мест и вакансий имеют оплату труда ниже величины минимального потребительского бюджета.

**Алексей ОРЕШКО**

# ЛЬГОТНИКОВ СТАНЕТ МЕНЬШЕ

**Перегруженность общества вредными привычками свидетельствует о его нецивилизованности, заявил министр здравоохранения Игорь Зеленкевич, выступая 7 декабря на IV съезде Белорусской ассоциации социал-гигиенистов и организаторов здравоохранения.**

По словам министра, в ближайшем будущем медики прогнозируют "чудовищную разницу" между средней продолжительностью жизни женщин и мужчин. Ожидается, что эта разница составит 11,7 года: 73,9 — у женщин и 62,2 года — у мужчин. Коэффициент смертности с 1990 по 1999 годы, отметил Игорь Зеленкевич, вырос на 32,7 процента. Это в первую очередь касается роста смертности мужчин в трудоспособном возрасте в результате несчастных случаев, травм и отравлений. "Мы можем повлиять на этот процесс, если создадим условия для прекращения повального пьянства, травматизма на производстве, в быту и на дорогах", — считает министр.

Кроме того, считает Игорь Зеленкевич, не может дальше сохраняться ситуация, при которой 63 процента медикаментов потребляются пациентами льготно и бесплатно. Сегодня в Беларуси насчитывается 37 категорий льготников; существуют районы, где более половины населения потребляет медикаменты льготно и бесплатно. Министр здравоохранения высказал намерение заметно сократить число льготников уже в 2001 году.

# ЧЕРНОБЫЛЬСКАЯ АЭС ОСТАНОВЛЕНА НА ВЕКА

**Третий энергоблок Чернобыльской АЭС запущен без подключения к энергосистеме страны 14 декабря, после 8 дней ремонта.**

Первоначально планировалось включить блок раньше, чтобы до момента остановки ЧАЭС — 15 декабря — он выработал примерно 30 миллионов киловатт-часов электроэнергии. Однако соответствующие службы не давали разрешение на запуск реактора. Как сообщил БелаПАН заместитель главного инженера ЧАЭС Андрей Шацман, для того, чтобы не менять сценарий церемонии закрытия ЧАЭС и торжественно остановить реактор и турбогенераторы, было принято решение о запуске блока в минимальном режиме мощности. Сегодня энергоблок включили на минимальный контролируемый уровень, равный 1 проценту от его мощности. Вырабатываемая электроэнергия расходуется на собственные нужды станции.

По словам заместителя генерального директора ЧАЭС Владимира Комарова, коллектив смирился с принятым правительством и президентом решением о закрытии станции. Он полагает, что это решение во многом обусловлено экономическим состоянием государства. "Любые технические вопросы, связанные с реконструкцией и повышением безопасности, решаются при определенных экономических условиях. К сожалению, следует признать, что сейчас эти условия не на пользу ЧАЭС", — сказал Комаров.

**БелаПАН**



Фота IREX/ProMedia

*Леонид Кучма даёт команду оператору пульта на закрытие третьего блока Чернобыльской АЭС. 15 декабря 2000 г.*

# БЕНЗИН ПО КАРТОЧКАМ

**Подписано соглашение о стратегическом сотрудничестве между российской компанией "Росберлио", польской фирмой "Крисмар лтд.", а также белорусскими научно-производственным ООО "Берлио" и "Белгазпромбанком".**

Этот документ предусматривает создание единой системы безналичных расчетов за автомобильное топливо.

Сегодня уже выпущено свыше 70 тысяч электронных карточек "БерлиоКарт". Партнерами крупнейшей процессинговой компании страны "Берлио" по обслуживанию автопредприятий и автолюбителей выступают практически все крупные операторы топливного рынка Беларуси, в том числе такие компании, как "Экоцвет", "Юнайтед компани", "Лукойл", "Славнефть", "Айдс-АЗС" и другие. С нынешнего года число участников проекта пополнилось ЗАО "МНПЗ-продукт" и всеми областными нефтебазами республики.

Теперь сбылись также пожелания многих тысяч автоперевозчиков и автолюбителей, следующих в Россию и Польшу. Так, отныне платежи за топливо при использовании кредитной карточки "БерлиоКарт" принимаются без каких-либо ограничений, а достаточно широкая сеть терминалов сделала эту процедуру простой и удобной. Сейчас система все больше приобретает международный статус. Платежные терминалы, установленные на АЗС вдоль автотрасс на Москву, Санкт-Петербург, Варшаву, Берлин, на пограничных переходах с Германией и Чехией, также готовы принимать карты "Берлио".

**БелаПАН**

# Подоходный налог сохраняется НА ПРЕЖНЕМ УРОВНЕ

**Палата представителей Национального собрания Беларуси приняла в первом чтении поправки в закон "О подоходном налоге с физических лиц".**

Законопроект возвращает прежний порядок исчисления подоходного налога с граждан. Дело в том, что последние два года исчисление подоходного налога производилось нарастающим итогом с начала года — то есть при каждой последующей выплате производился перерасчет налога с зачетом ранее удержанных сумм. А по окончании года при наличии дополнительных доходов производился перерасчет налога по годовому совокупному доходу.

Такой порядок, по словам заместителя председателя парламентской комиссии по бюджету, финансам и налоговой политике Сергея Скребца, приводил к неравномерному поступлению налоговых поступлений в течение календарного года, что создавало напряженность с исполнением доходной части бюджета в первом полугодии на протяжении двух последних лет.

В соответствии с новой редакцией закона, выплаты подоходного налога будут осуществляться равномерно: ежемесячно авансовым платежом по единой шкале подоходного налога. В целом же налоговая нагрузка на граждан сохранится на уровне прежних лет и составит 10,8 процента.

**БелаПАН**

# ЖИЛЬЁ БЕДНЫМ

**Жилье в Беларуси "должны строить не только богатые, но и бедные люди, которые сегодня не могут построить сами".**

Такую задачу поставил Александр Лукашенко перед участниками совещания, прошедшего в резиденции президента.

Совещание было посвящено вопросам развития системы строительных накоплений и взаимного жилищного кредитования. Президенту был представлен проект указа о введении в стране новой схемы решения жилищной проблемы. Она, в частности, предусматривает существенные изменения методов финансирования жилищного строительства и форм государственной поддержки граждан, нуждающихся в улучшении жилищных условий.

Вместе с тем он подчеркнул, что уже больше года государство не печатает дополнительных денег на поддержку жилищного строительства, и сегодня необходимо изыскивать иные источники финансирования и новые формы поддержки этой отрасли. "Нужно уходить от порочной практики субсидирования одних за счет других. Застройщиком должен быть гражданин, фактический хозяин жилья, а государство активно, именно экономически эффективно, должно помогать ему в этом", — сказал Лукашенко. Он также заявил, что готов поддержать любую схему развития жилищного строительства, но только при выполнении определенных условий. "Главное из них — объемы, которые доводятся мною для строительства по стране. На будущий год, повторяю, это 3 миллиона квадратных метров...", — сказал он. Предлагаемая правительством система строительных накоплений, по словам президента, "должна дать зеленый свет честным труженикам государства на законную реализацию своего важнейшего конституционного права, а также исключить любые проявления несправедливости, ни в коем случае не стать очередной лазейкой для дельцов и махинаторов".

**Наталья КУЛАГИНА**

# МИТИНГ ПРЕДПРИНИМАТЕЛЕЙ

**Около 150 человек приняли участие в митинге в защиту прав предпринимателей, который прошел в Минске в парке Дружбы народов и был организован профсоюзами предпринимателей и стачкомом.**

На митинг прибыли представители профсоюзных структур Гродно, Витебска, Орши, Солигорска, Слуцка, Пинска, столичных рынков "Динамо" и "Ждановичи". Выступавшие констатировали ухудшение условий ведения предпринимательской деятельности, дискриминацию предпринимателей со стороны государства, налоговых органов и силовых структур.

Участники митинга приняли резолюцию, в которой потребовали отменить в части, касающейся индивидуальных предпринимателей, постановление Государственного таможенного комитета о таможенном оформлении ввозимых в Беларусь товаров, произведенных в третьих странах и выпущенных в свободное обращение в России; прекратить административное и уголовное преследование предпринимателей по формальным и надуманным признакам; снизить необоснованно высокие административные штрафы; уменьшить стоимость аренды торговых мест, не допустить повышения фиксированных ставок налога.

Стачком предложил провести забастовку в течение пяти дней — с 1 по 5 января, чтобы она была "по-настоящему общереспубликанской". В то же время стачком не намерен препятствовать проведению в регионах более длительных забастовок и выражает готовность помочь в их организации. По словам Левоневского, окончательное решение относительно забастовки будет принято в ближайшее время.

**Дмитрий ВЛАСОВ**

